# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК. ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 13 (27)* *21—27 траўня 1993 года* *Кошт 5 рублёў*


**ПАЧВАРА Ў СУТАРЭНЬНЯХ** або Як партыйныя правадыры наведалі радыё.

**«ПАГОНЯ» Ў КОЎНЕ.** Беларуская газэта летувіскай Тарыбы.

**ПЯТАЯ КАЛЁНА.** Зацемкі дэпутата пра беларушчыну.

**1939 год. НОВЫЯ ПАРАДКІ.** Лёс сям'і Міклашэвічаў.

## «ГАНЬБА» — гэта слова некалькі разоў прагучала з вуснаў сусьветна вядомага мастака Лявона Тарасэвіча на прэсканфэрэнцыі, якую ён наладзіў перад адкрыцьцём сваёй пэрсанальнай выставы ў Менску.



Л. Тарасэвіч у сваёй майстэрні у Валілах на Беласточчыне.

Да гэтай падзеі Лёнік, як яго клічуць сябры, імкнуўся ўсё жыцьцё. Яго шанавалі паўсюль у Эўропе, ў сусьветным цэнтры мадэрновага мастацтва — Новым Ёрку, у Ізраілі. Але ён, можа крыху сэнтыментальна, чакаў таго моманту, калі з ягонай творчасьцю здолеюць пазнаёміцца на Беларусі. Нарэшце зьмяніліся часы, і арганізацыяй выставы таленавітага беларускага мастака з Беласточчыны заняліся аж на ўзроўні міністэрстваў культуры Польшчы й Беларусі. Але вось з-за гэтай апошняй установы і пачаліся «сюрпрызы». Каталёг, макет і слайды для якога былі перададзены паўтары гады таму, ня быў выдадзены. Гэта, ў прынцыпе, нікога ня здзівіла — не прызвычаіліся ў нас пакуль што да падобных «капіталістычных штучак». Але Лёнік, якому звыкла працаваць у цывілізаваных умовах, усё ж такі згадзіўся праводзіць выставу. Пра гэта было дамоўлена ў сакавіку, і на Беларусь былі адпраўлены карціны, частка з якіх належыць музэю сучаснага мастацтва ў Лодзі, частку мастак прасіў у прыватных калекцыянэраў, бо хацеў, каб ягоная рэтраспэктыва на Бацькаўшчыне асьвятліла ўсе шляхі ягоных творчых пошукаў. Да правядзеньня выставы вельмі ўважліва ставіўся й аташэ па культуры польскай амбасады. Адказны за правядзеньне падобных акцыяў у нашым міністэрстве культуры таварыш Уродніч запэўніў, што ўсё будзе «о'кэй» і запрасіў мастака на адкрыцьцё ягонай жа выставы.

Лёнік прыехаў за некалькі дзён. Лішне казаць, што на выставе й «конь не валяўся». Але больш за ўсё мастака абурыла тое, што пры разгрузцы ягоных карцінаў некаторыя былі пашкоджаны. Рэклямныя плякаты, эскіз якіх ён перадаваў раней, аддрукаваныя ня былі. Замест іх спрабілі традыцыйныя «саўдэпаўскія», дзе чырвонымі літарамі паведамлялася пра выставу нейкага Леона Тарасевіча. На рэзкую заўвагу мастака, што ягонае прозьвішча — Тарасэвіч, таварыш Уродніч паведаміў, што ў іх такая граматыка. На гэта Лёнік адказаў, што яму плявáць на іхнюю граматыку, і што ўжо некалькі пакаленьняў ягоны род завецца Тарасэвічамі. У выніку такой падрыхтоўкі за тры дні да адкрыцьця выставы пра яе ня чуў нават Арлен Кашкурэвіч.

Выставу Лёнік усё ж такі зрабіў. Сам. Яму дапамагалі браты Кашкурэвічы — Іван і Хведар. Апошнія суткі яны ня выходзілі з выставачнай залы. Зрабілі не дзеля міністэрства, а дзеля сяброў і знаёмых. Апошнія суткі яны ня спалі зусім. На прэсканфэрэнцыю прыйшлі таксама толькі сябры й іх знаёмыя. Лёнік быў босы й у запэцканым фарбай працоўным камбінэзоне. Ён быў страшэнна стомлены, абураны й расчараваны. І ўсё ж такі дабразычліва пасьміхаўся «сваім».

Адкрыцьцё было «скамячана». Ня было традыцыйнага ў такіх выпадках шампанскага. Адно паспрабавалі вытрымаць нормы прыстойнасьці перад камэрамі. А потым усе хадзілі й разглядалі карціны. Я ня буду іх апісваць, таму што гэта зусім іншая размова — мой артыкул не пра тое. Заўважу адно — такой гарманічнай і моцнай выставы Беларусь яшчэ ня бачыла. І ня ведаю, калі яшчэ ўбачыць, бо зусім нядаўна рэктар Акадэміі мастацтваў Шаранговіч, пад час выступленьня на нейкай зборцы, прадэкляраваў, што акадэмія павінна стаць «аплотам рэалізму». Сумна ўсё гэта. Было б сьмешна, каб не было так сумна.

Пад час выступу польскі аташэ па культуры паспрабаваў выправіць сітуацыю. Ён сказаў, што ў нас з мастацтвам усё добра, але ёсьць цяжкасьці з арганізацыяй. Дазвольце не пагадзіцца! У нас з арганізацыяй «усё ў парадку». За той час, калі ён пасьпяхова «завальваў» выставу спадара Лявона Тарасэвіча, таварыш Уродніч пасьпеў арганізаваць сваю ўласную рэтраспэктыву, дзе вывесіў усе партрэты трактарыстаў і герояў сац. працы. Я ня думаю, што чытачы калі-небудзь гэта пабачаць, а таму прывяду адзін факт, які, на маю думку, цудоўна сьведчыць пра таварыша Уродзіча як пра мастака, ды й ня толькі: у музэі Максіма Багдановіча ёсьць твор ягонага пэндзлю, дзеззаду напісаны назоў — «Встреча с зорькой Венерой».

Калі на прэсканфэрэнцыі Лёнік чарговы раз казаў «Ганьба!», я адчуваў сябе так, быццам мне кінулі гразёй у твар. Здавалася б, я тут пры чым? Я даўно абстрагаваўся ад гэтай саўдэпаўшчыны. Але... Чаму мы ня спытаем у падобных мастакоў-чыноўнікаў: «А што вы, таварыш, робіце ў нашым міністэрстве культуры?» Альбо наадварот: «А навошта нам такое міністэрства культуры?»

Сумна ўсё гэта.

**Алесь АСТРАЎЦОЎ,**
**Менск.**

## Па жаўнерах з-пад Монтэ-Касіна

У мінулую нядзелю ў гарадзенскай Малой базыліцы адбылося набажэнства па жаўнерах, палеглых пад Монтэ-Касіна. У касьцёл прыйшлі некалькі соцень вэтэранаў II Сусьветнай вайны, сярод якіх былі ўдзельнікі тых памятных дзён. Набажэнства было адметна таксама дзякуючы таму, што яго правіў надзвычайны і паўнамоцны пасол Ватыкану на Беларусі.

Пасьля касьцёлу частка вэтэранаў сабралася на прыватных кватэры, бо правесьці сустрэчы ў Палацы культуры хімікаў не атрымалася. На «прыватках» гучалі вайсковыя ўспаміны.

**(га).**

## Вуніяты зьвярнуліся ў суд

Грэка-каталіцкая суполка Горадні зьвярнулася ў суд, каб абскардзіць рашэньне аблвыканкама аб перадачы будынкаў былога жаночага Базыльянскага вуніяцкага кляштара эпархіі Беларускай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхата. Дарэчы, гарадзкія ўлады былі супраць заўчаснай перадачы кляштара, у якім сёньня месьціцца Дзяржаўны музэй гісторыі рэлігіі.

Пабудаваны кляштар быў у XVIII ст. на грошы гарадзенскіх вуніятаў. Рашэньне аблвыканкаму, як гаворыцца ў заяве ў суд, абмяжоўвае правы вернікаў грэка-каталіцкай канфэсіі Горадні, сапраўдных спадкаемцаў Кляштара.

Цікава, што з Ленінскага раённага суда Горадні вернікаў спачатку накіравалі у вабласны, а з вабласнога — назад у Ленінскі, ні там ні тут не прыняўшы заяву. Давялося тады даслаць яе поштай у вабласны суд, пасьля чаго прыйшоў адказ аб тым, што заява накіравана ў Ленінскі суд.

**(пб).**

## «Адзідас!»

Прэзідэнт Усеамэрыканскай асацыяцыі вытворцаў спартыўнага абутку містэр Бранс пабываў у Горадні. Ён правёў папярэднія перамовы на абутковай фабрыцы, сустрэўся з кіраўніцтвам мясцовых уладаў. Ёсьць падставы разьлічваць на арганізацыю ў нас сумеснай вытворчасьці.

Дарэчы, да гэтага амэрыканскі камэрсант наведаў сталіцу Беларусі, дзе таксама вёў размову аб адкрыцьці вытворчасьці вядомага ва ўсім сьвеце абутку фірмы «Adidas».

**М. ДУБРАВІН.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Мітынг у старым парку

Тое, што мітынгі сталі непапулярнымі ў грамадстве, яшчэ раз пераканаліся дэмакраты Горадні. Бо на апошні мітынг, які ладзілі дэмакратычныя суполкі ў старым парку, прыйшло прыкладна 300—400 чалавек.

Перад прысутнымі выступілі прадстаўнікі БСДГ, грамадзка-палітычнага аб ´яднаньня імя Каліноўскага, БНФ і Сялянскай партыі. Прамоўцы гаварылі аб здрадніцкай палітыцы ўраду і яго кіраўніка В. Кебіча, заклікалі супраць уваходу Беларусі ў ваенны блёк з краінамі СНД, на тэрыторыі якіх палаюць войны. Зьбіраліся подпісы ў падтрымку пазіцыі старшыні Вярхоўнага Савета захаваць нейтралітэт Беларусі, развешваліся сатырычныя плакаты з выявамі прэм ´ера.

Мітынг прайшоў без інцыдэнтаў і скончыўся пад натхняльныя мэлодыі гарадзенскага барда В. Шалкевіча.

(га).



### Адзіным фронтам

Нядаўна ў Гомлі створаны новы народны рух, які мае назоў «Грамадзянскае дзеяньне». У яго ўвайшлі Аб ´яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская сялянская партыя, Рух дэмакратычных рэформаў, БНФ, БСДГ, Партыя народанай згоды, Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль», яшчэ 15 грамадзкіх арганізацый.

Мэтай новага аб ´яднаньня зьяўляецца супрацьстаяньне пракамуністычным арганізацыям Гомельшчыны пад час наступных выбараў.

### Добрыя камэрсанты

Дзякуючы камэрсантам з Чарнігаўскай і Кіеўскай вабласьцей Украіны на торжышчах Гомлі зьявілася шмат тытунёвых, макаронных і кандытарскіх вырабаў, а таксама суседзігандляры прадаюць вопратку, абутак, лекавыя прэпараты й гарэлку па коштах, значна ніжэйшых, чым у дзяржгандлі. Гарэлка каштуе 350—400 рублёў, трохлітровы слоік алею — 750—800 рублёў. Цыгарэты па 10—20 рублёў таньней тых, якія ў красавіку - траўні прапанаваў гамяльчанам па талёнах Аблгандаль.

**По матэрыялах газэты «Палескі край» падрыхтаваў Г. АСТРОЎСКІ.**

## Няўдалая спроба бальшавіцкай экспансіі эфіру,

### альбо Першакрасавіцкія жарты вакол «Беларускай маладзёжнай»

*Не сакрэт, што радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» разам з часопісам «Бярозка» — адзіныя сродкі масавай інфармацыі на Беларусі, якія здолелі спалучыць тарашкевіцу з афіцыйнасьцю свайго існаваньня. Але вызначаюцца яны ня толькі гэтым, а ў першую чаргу — прафэсіяналізмам. Ня трэба праводзіць сацыялагічныя дасьледаваньні, каб даведацца аб рэйтынгу «Беларускай маладзёжнай». Лепш за ўсё пра яго засьведчыў той вэрхал, які ўзьняўся ў краіне пасьля першакрасавіцкіх жартаў пра «афіцыйнае паведамленьне ўраду» і нарэшце адкапаных археолагамі «сьлядоў» нейкай звышцывілізацыі дзесьці пад Менскам. Але пра гэта ўжо напісалі ўсе газэты, ня буду паўтарацца.*

*Безумоўна, як арганізацыя творчая, свабодная, таленавітая, «маладзёжная» рэдакцыя даўно нібы тое бяльмо на воку нашых уладаў. Было шмат спробаў яе закрыць альбо расфармаваць. На гэты раз, нягледзячы на абвінавачваўшы журналістаў у «дэзінфармацыі насельніцтва 1 красавіка пад час эфіру гумарыстычнай праграмы «Сёмая пятніца», Саўмін рашуча зьбіраўся давесьці справу «да канца». Але адбылася даволі дзіўная рэч: пад час самага запалу справа была неяк ціха «замята». Чаму так адбылося, я папрасіў распавесьці аднаго з непасрэдных удзельнікаў падзей, мадэратара (чалавека, які вядзе перадачу ў жывым эфіры) радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» Алеся Дайнэку. Вось што ён мне расказаў.*

У канцы сакавіка, без 20-ці 11, гэта значыць за 20 хвілінаў да пачатку эфіра, я быў выкліканы ў габінэт намесьніка старшыні дзяржтэлерадыё Белтэлерадыёкампаніі сп. Сушкевіча. У яго сядзелі 18 рэпрэзэнтантаў палітычных партыяў, аб ´яднаных у адзін блёк пракамуністычные накіраванасьці. Тут варта ўзгадаць толькі некаторых асобаў: гэта сп. Чыкін — сустаршыня ПКБ, сп. Малафееў — старшыня КПБ, прадстаўнікі славянскага сабору «Белая Русь» — арганізацыі прафашысцкага накірунку, якую не прызнаюць нават у Расеі і іншых арганізацыяў. Узначальваў іх сп. Гайдукевіч — каардынатар руху «Белая Русь».

Відавочна, што нашая радыёстанцыя ніколі ня вызначалася пракамуністычнай накіраванасьцю, а таму запрашэньне такой колькасьці рэпрэзэнтантаў такіх партыяў менавіта ў нашую рэдакцыю, у адзін дзень і за 20 хвілінаў да эфіру не магло ня выклікаць абурэньня. Мы ўспрынялі гэта як сьвядомую правакацыю: маўляў, адмовім ім у эфіры і гэта будзе адной з нагодаў, каб разагнаць нас і паказаць нашую «аднабаковасьць». Так, сапраўды, у нас вызначаны свой накірунак, бо зараз на Беларусі больш няма другой альтэрнатыўнай каманды, дзе б прадстаўнікі ад дэмакратычных плыняў мелі магчымасьць выказацца праз сродкі масавай інфармацыі.

Яшчэ цікавы той факт, што іх прывёў да нас у эфір член аддзелу друку, радыё й тэлебачаньня Саўміна — арганізацыі, якая пасьля першакрасавіцкіх жартаў відавочна аказвала на нас уціск. Мы даўно, як кажуць, мазалілі ім вочы. Адзначу тое, што праграмы такога кшталту рыхтуюцца за тыдзень да эфіру. А тут такая нечакаванасьць... Гэта можна назваць умешваньнем у творчыя пляны рэдакцыі, гвалтоўным уціскам. Пры тым у сваё часы кожнага з гэтых рэпрэзэнтантаў палітычных партыяў мы запрашалі паасобку да дыскусіі ў студыі. Але яны адмаўляліся, бо, відаць, як «воўчая зграя», па аднаму ня ходзяць.

Мы ўсё ж такі вырашылі праводзіць перадачу. Яны перад эфірам хацелі адключыць тэлефоны наўпроставай сувязі, якімі мы пастаянна карыстаемся, каб мець магчымасьць адказваць на тэлефанаваньні слухачоў. На гэта мы не згадзіліся.

У іх гэтак па-камуністычнаму было расплянавана, хто што кажа. Самыя «монстры» — Малафееў і Чыкін, павінны былі толькі адзначыць сваю прысутнасьць, але ня выступаць. І толькі, так бы мовіць, маёю воляю, яны вымушаны былі загаварыць у эфіры. Спачатку яны хацелі падставіць толькі «аўганскіх» маці, ды саміх аўганцаў. Вось, маўляў, на чым спэкулюеце — на крыві нашых дзяцей.

Я сам ня мог камэнтаваць іхнія выказваньні, ня мог быць апанентам. Адзіны магчымы варыянт дыскусіі быў — гэта тэлефанаваньні слухачоў. І яны падтрымалі нас. Проста нейкая плыня была званкоў. Слухачы назвалі ўсё гэта міні-варыянтам ГКЧП у нашым эфіры. Былі нават нараканьні з боку выступанцаў, што праграма не падрыхтаваная, а тэлефанаваньні — тэндэнцыйна падабраныя. Але ж яны самі прысутнічалі ў студыі, і бачылі, што гэта — нонсэнс. Ну а сказаць, што тэлефанаваньні слухачоў былі тэндэнцыйнымі, можна ў тым выпадку, калі ўлічыць, што мы маем сваю аўдыторыю, і, натуральна, такое гнюсьнасьці й у такое колькасьці, якая вылівалася з эфіру, нам даравацъ не маглі. Гэта сьведчыць пра тое, што партыі, якія прагнулі з эфіру зрабіць трыумф, на самой справе селі ў калюжыну. Гэта было відавочна.

Пасьля падзеі разгортваліся наступным чынам. У той дзень я быў вымушаны зьняць з эфіру заплянаваны выступ дэпутата гарсавету Ігара Чарняўскага, з якім за цэлы тыдзень была папярэдняя дамова. Натуральна, што годнасьць дэпутата была закранутая, і ён зьвярнуўся ў міністэрства інфармацыі з запытам, чаму без папярэдняга ўзгадненьня былі перакрэсьленыя пляны нашае рэдакцыі, і што на нашую радыёстанцыю мае месца ўціск Саўміну. Пасьля гэтага мяне выклікалі да сп. Сушкевіча, дзе прысутнічаў і дырэктар праграмаў сп. Уласенка, які непасрэдна тут у нас у структуры аддаваў загады, каб гэтыя людзі трапілі ў эфір. Мяне азнаёмілі з запытам і прапанавалі сказаць, што гэта — хлусьня, і што дэпутат займаецца «очернительством». Зразумела, я на гэта не пайшоў. Я пацьвердзіў, што сапраўды ня мог паставіць у той дзень ягоны выступ у эфіры, і што ўсё тое, што сп. Чарняўскі напісаў у запыце — праўда.

Пасьля першакрасавіцкіх жартаў мы не маглі не скарыстаць такую сітуацыю на сваю карысьць. Запыт дайшоў да сп. Трусава. Я быў вымушаны напісаць тлумачальную, дзе ў разгорнутым выглядзе растлумачыў гэтую сітуацыю. Сапраўды, ня мог той самы прадстаўнік Саўміну сп. Балажынскі — былы супрацоўнік радыё, ня ведаць пра тое, што праграмы такога кшталту рыхтуюцца за тыдзень, а паставіць нас перад фактам за 20 хвілін да эфіру — сьвядомая правакацыя, спроба зьбіць нас з панталыку. Але, як вы ведаеце, журналісты «Беларускай маладзёжнай» ніколі ад паперкі не працавалі. Мы хутка з ´арыентаваліся і адпаведным чынам пабудавалі эфір, таму слухачы хутка разабраліся хто ёсьць хто.

Калі яны прыйшлі ў студыю, у эфіры гучала песьня: «А ў заапарку ўсё проста й ясна. Сьмешна з адным, з другім — апасна...», потым кампазіцыя АС/ДС «Бэк ін Блэк» — «Вяртаньне ў чорным», але гэтыя людзі не разабраліся. І ўвогуле, тое, як яны сябе паводзілі ў эфіры, тое, што яны казалі — гэта настолькі сьмешна выглядала! Звычайны абсурд, камуністычныя лёзунгі, не падмацаваныя нічым. Я колькі разоў ні спрабаваў дабіцца тлумачэньня іхніх праграмаў — эканамічных і палітычных — гэтага не атрымалася. Дагаварваліся проста да абсурду. Калі я задаў сп. Малафееву пытаньне: ну вось, вы выступаеце зараз, нейкія лёзунгі прамаўляеце, а што замінала вам, калі вы былі пры ўладзе, увасобіць гэта ў жыцьцё? Ён сказаў, што на той час ужо быў адменены 6-ты артыкул пра кіруючую ролю партыі. Тады я спытаў: так што ж, маўляў, вы выступаеце за яго аднаўленьне? Атрымалася замінка ў студыі, пачалі адказваць: не...

Карацей, палітычная недальнабачнасьць гэтых людзей была відавочная. Зрэшты, і гэты эфір таксама паказаў гэтыя людзі аджылі сваё, але з іншага боку сітуацыя значна складаней. Уласна мяне здзіўляе ўзнаўленьне гэтых партыяў. Для сябе я малюю гэта наступным чынам: выставілі камуністычнага монстра, а на самой справе гэта людзі, увогуле не абазнаныя ў палітыцы. Іх выставілі як пудзіла — вось, маўляў, кусайце, грамадзяне, ня дайце ім прайсьці. А сапраўдная пачвара, сапраўдная камуністычная намэнклятура даўно ўладкавалася ў камэрцыйных структурах. Вобразна кажучы, пачвара бяжыць па сутарэньнях і выскачыць у нас за сьпінамі, калі ніхто ня будзе чакаць, бо ўся ўвага будзе зьвернута на монстра, які на самой справе выступае ў ролі блазна, які ня мае рэальнае сілы. А калі адбудзецца сапраўднае зрошчваньне намэнклятурных грошай, зрошчваньне камэрцыйных структураў з урадавымі ворганамі, я баюся, у нас можа быць другое Чылі — стабільная краіна, са стабільнаю эканомікай, але — дыктатура.

**Цікавую гісторыю распавёў Алесь Дайнэка. Вось толькі высноваягоная — сумная. У рэшце рэшт няхай сабе тая пачвара бяжыць па сутарэньнях, няхай там жыве. Абы на сонца ня выпаўзала.**

**Я. ДУБРОЎСКІ.**
**Менск.**





# ВОДГУКІ

# Куды падзецца беларусу?

*Дагэтуль вагаўся: ці трэба выказвацца так рашуча? Не аднойчы перапытваў сябе — ці не памыляюся ў сваіх падсумаваньнях, ці не бярэ верх глыбокая адданасьць беларускасьці без уліку глыбіннага аналізу падзей у заходняй Беларусі? Вядома ж, голыя эмоцыі, як і рознапалюсныя скрайнасьці, не падмога справе. Ісьціна — яна пасярэдзіне...*

*Аднак перамовы з аднадумцамі й знаёмымі усё больш пацьвярджалі падстаўнасьць турбот. Газэтныя публікацыі апошніх гадоў гэтаксама адкідаюць прэч апошнія ваганьні. Так, спадары, панове й таварышы, нешта ня тое дзеецца цяпер на заходніх беларускіх абшарах.*

ПАТРЫЯТЫЧНЫ друк даўно зьвярнуў на гэта ўвагу, падкрэсьліў, што палітычныя гульні палякаў і расейцаў на Гарадзеншчыне пераходзяць межы, за якімі беларус зноў становіцца ці «быдлам», ці жыхаром «Северо-Западного края». Мясцовыя пятыя калоны навыперадкі кінуліся ў барацьбу за далучэньне тутэйшых земляў адпаведна да Польшчы ды й Расеі. Меркаваньні саміх жа беларусаў, як і раней (а гісторыя пра гэта сьведчыць), ніхто ў разьлік не бярэ. Бяз нас дзялілі Беларусь у 1921 годзе, безьліч разоў гандлявалі яе тэрыторыяй ва ўгоду палітычным дабротам суседзяў, аддаючы то Беласточчыну Польшчы, то Віленшчыну — Летуве, то Смаленшчыну — Расеі. Палітыка дзялкоў накшталт Сталіна — Молатава ляснула, і Беларусь засталася ні з чым.

На жаль, сёньняшні беларус мала знаёмы з гісторыяй Бацькаўшчыны. Яго талерантнасьць, а гэта любімае слова сп. Шушкевіча, для мяне роўназначнае здрадніцтву нацыянальных інтарэсаў. Менавіта так успрымаю артыкул у «Пагоні», ліст з Беласточчыны: «Вось табе й «воля», Беларусь...» Аўтар не падпісаў сваё імя, бо ведае, што яго пасьля будуць цкаваць. На гэта ва ўсе часы былі мастакі шчыраваць за юдавы срэбранікі...

Артыкул выклікае пачуцьці болю й гняўлівасьці. Можна было б зараз перайсьці да плаканьня, зьвяртацца да патрыятычных струнак чалавека, заклікаць да кансалідацыі, кпіць з нашага, беларускага, безхрыбетнага характару й г. д. Усё гэта ўжо было. Наплакаліся.

Хопіць!

Беларус працуе, стварае матэрыяльныя каштоўнасьці, але абыякавы да будучыні сваёй і сваіх дзяцей. А за яго сьпіной па-ранейшаму ідзе вялікая дзяльба. Дзяржавы-суседкі змагаюцца за тое, каму хутчэй удасца перацягнуць нас на свой бок. Пакуль што выяўна бачыцца ідэалагічнае сутыкненьне, і найперш касьцёла й царквы. Затым школы — польскай і рускай. Беларускую не бяру да ўвагі, бо яе будучыня пад вялікім пытальнікам. Цяперашні Вярхоўны Савет, без сумніву, праштампуе падсунутую ворагамі беларушчыны паперку й увядзе двухмоўе — зьнішчыць адно з галоўных заваёў Адраджэньня — беларускую мову.

ПЕРАГАРНІЦЕ гарадзенскія газэты апошняга часу. Шмат у іх знойдзецца для ўдумлівага чытача. Першага мая на мітынгу адзін з папрарасейску настроеных выступанцаў запэўніваў прысутных, што Беларусь — гэта Расея, бо тут жывуць «русскоговорящие», што былы СССР — добраахвотнае аб´яднаньне...

Ягоныя аднадумцы з КПБ-ПКБ у штотыднёвіку «Высота», выказваючыся ў сваіх матэрыялах пад рубрыкай «Партийный перекресток», адмаўляюцца ад незалежнасьці Беларусі, заклікаюць зноў стварыць грамадства бяз класаў, «эксплуатацыі», нібыта для нас было поўным шчасьцем атрымліваць трыццаць працэнтаў ад заробку, астатняе ж забірала дзяржава й пасьля рабіла нам ласку, маўляў, вось ён, сацыялістычны рай, з грамадзкіх фондаў падтрымліваецца бясплатнае лячэньне-вучэньне, і адпачынак. І ніхто чамусьці не здагадваўся, што гэтая «дабрачыннасьць» даўно аплочана з яго ж кішэні...

Функцыянэры з Саюза палякаў на Беларусі, відаць, папракнуць за выхапленую з кантэксту фразу. Але слова — не верабей. «Звязда» зьмясціла выказваньне нейкай Яніны Янчукайтэне з Мастоў: «Мы не нацыянальная меншасьць, мы ніколі не былі тут меншасьцю. Мы грамадзяне Рэчы Паспалітай на сваёй роднай зямлі». Вось так. Але нагадаю шаноўнай пані вынік перапісу насельніцтва 1989 года. На Гарадзеншчыне на той час было ўсяго жыхарства 1.170.342 чалавекі. З іх беларусаў — 702.208, палякаў — 300.836, расейцаў — 124.250, украінцаў — 23.401, летувісаў — 3.087. Да гонару кіраўніцтва II зьезда палякаў на Беларусі, дзе Я. Янчукайтэне рабіла свае «адкрыцьці», знайшліся разумныя палітыкі, якія падкрэсьлілі, што гэта яе асабістая думка, а не ўсіх сябраў СПБ. Але ж думкі не зьяўляюцца на голым месцы...

Тая ж польская грамадзкасьць б´е цяпер трывогу, маўляў, у савецкія часы беззадстаўна палякі з-за нацыянальнасьці запалохваліся, іх прымушалі мяняць ці хаваць сваю нацыянальную прыналежнасьць, запісвацца беларусамі. Трэба аднавіць справядлівасьць...

А мне ўзгадваюцца словы паэта Сяргея Новіка-Пяюна пра ягонае жыцьцё ў Заходняй Беларусі падчас яе часовага знаходжаньня ў складзе даваеннай Польшчы: «Стараста, які выдаваў пашпарт, прымушаў мяне запісацца палякам, казаў, што паеду тады вучыцца ў Кракаў, у акадэмію» (гл. «Звязду» ад 27 сакавіка г. г.). Ды ці толькі паважаны Сяргей Міхайлавіч успамінае, як тагачасныя польскія ўлады выкаранялі беларускае!..

Колькі сёньня такіх «палякаў» на Гарадзеншчыне? Хадзіць у касьцёл яшчэ ня значыць быць палякам, бо каталіцкае веравызнаньне распаўсюджана па ўсім сьвеце. Бразільцы, італьянцы, мексіканцы й шмат хто іншы — каталікі, аднак ны гэтым ня пішуцца палякамі. А вось у нас на Беларусі нехта пастаянна даводзіць «каталік — значыць паляк», нібыта каталікам ня можа быць беларус ці рускі. Магчыма, некаму не падабаецца такая нацыя, як беларусы, дык гэта яго асабістыя справы. Мне ж бачыцца й тут мэтанакіраваная палітыка з далёкім прыцэлам.

ПАЛІТЫКА — не дарога з аднабаковым рухам. І калі сёньня той-сёй са старонак польскамоўнага друку ці па радыё пачынае пералічваць жахі, якія прынесла гэтай нацыі на Беларусі камуністычнае кіраваньне, чалавеку, які паглыблена ведае гістарычныя стасункі на тутэйшых землях, карціць запытацца: няўжо панаваньне ў Заходняй Беларусі польскай адміністрацыі было для маіх бацькоў доўгачаканым раем? Пачытайце аповесьць Аляксея Карпюка «Данута», іншыя яго творы, аўтабіяграфічнага накірунку, успаміны актыўных удзельнікаў вызваленчага руху, пераканаецеся, як пасьміхаліся з «хамув», білі па руках, калі ў шкаляра знаходзілі кніжку на беларускай мове. Палянізацыя вялася шырокім фронтам, і гэтага факта адмаўляць ня можа ніхто.

За некалькі гадоў да вядомых падзей верасьня 1939 года беластоцкі ваявода Латашаўскі яскрава выклаў палітыку правячых колаў Рэчы Паспалітай: «Гаворачы сьціпла, нашы адносіны да беларусаў могуць быць выказаны так, што мы жадаем аднаго, настойліва патрабуем, каб гэтая нацыянальная меншасьць думала папольску, нічога яму ўзварот не даваць і нічога не рабіць у іншым накірунку. Пажадана, каб гэты працэс паскорыць, інакш можна чакаць розных непаразуменьняў. Мы павінны адолець старажытную беларускую культуру». Міністар асьветы Скульскі мовіў яшчэ карацей: «Запэўніваю вас, што праз 10 гадоў у Польшчы нават са сьвечкай не знойдзеце ніводнага беларуса». Польскі публіцыст тагачасных дзён Уладыслаў Студніцкі таксама абвяшчаў: «Ні аб якім беларускім народзе ня можа быць і гутаркі, бо беларусы ня маюць уласных традыцый. Аб беларускай культуры нельга гаварыць з прычыны таго, што ў беларусаў няма культурнага адзінства».

Цяпер на Гарадзеншчыне шырока разгортваецца польскае школьнае будаўніцтва. Законы, прынятыя беларускім парлямэнтам, садзейнічаюць гэтаму. І кепскага тут анічога няма. Але мне ўспамінаецца тэкст Рыжскай дамоўленасьці 1921 года паміж Расеяй і Польшчай. Там было запісана: не прычыняць перашкод нацыянальнаму жыцьцю беларускага народа, як і іншым нацыянальным меншасьцям у складзе Польшчы.

З беларускімі школамі атрымалася наступнае. 31 сакавіка 1924 года ўрад Пілсудзкага прыняў закон аб школьнай справе. Дазвалялася адчыняць беларускія школы толькі там, дзе было больш, як 25% беларусаў. Пасьля закон «удасканалілі»: беларускія школы адчыняць там, дзе бацькі 40 дзяцей пададуць заявы з просьбай вучыць сыноў і дачок пабеларуску. Беларускія паслы ў сейме зьвярталіся па дапамогу да прэм´ер-міністра Грабскага, але дарэмна. Наадварот, зьніклі самыя старыя школы ў вёсках Яглічы й Кавалі Сьвянцянскага павету. Беларускіх настаўнікаў налічвалася ў Заходняй Беларусі 150 чалавек, але працу мелі толькі 30. Да 1937 года беларускія школы, не кажучы пра гімназіі, былі зьліквідаваны.

Нядаўна ў польскамоўнай газэце «Глос з-над Немна» кіраўніцтва СПБ давала справаздачу аб праробленай рабоце, у прыватнасьці, адкрыцьцё школ. Падумалася: талерантны беларус дбае сёньня пра навучаньне польскіх дзетак па-польску, дык чаму ў свой час дэмакратычны паляк перашкаджаў набыць адукацыю пабеларуску таму ж беларусу, прымушаў запісацца палякам? Міністар асьветы Скульскі ведаў, што гаварыў. А на практыцы мой бацька-нябожчык так і застаўся з чатырма класамі польскай школы. Гэтыя параўнаньні прымушаюць задумацца. Тым больш, што на Беласточчыне, калі верыць узгаданаму напачатку артыкулу, публікацыям у розных выданьнях цяпер беларуская мова вывучаецца як прадмет толькі ў так званых беларускіх гімназіях двойчы на тыдзень.

У савецкі час становішча ў нас катастрафічна пагоршылася. Перад вайной настаўнікі-усходнікі старанна выконвалі сацыяльны заказ тых, хто іх сюды прыслаў — ухвалялі сталінскі лад і, вядома, вялікую рускую мову. Кіраўнікі ўсіх рангаў таксама былі з Усходняй Беларусі, работнікі міліцыі, НКУС, нават наглядальнікі ў турмах — з Расеі. Навошта ім была беларуская мова, яны ж прынесьлі сюды «сьветлыя ідэалы камунізму», каб запанаваў інтэрнацыяналізм і палітыка зьліцьця нацый. У выніку й беларусы, й палякі, й яўрэі страцілі свае школы, якія напачатку для прыліку былі дазволены.

У адной з газэт была зьмешчана інфармацыя аб нацыянальным паходжаньні кіраўнікоў у рэспубліцы. Беларусы, калі не памыляюся, апынуліся на пятым месцы. Вось і прыходзіць на розум, што нязадольныя мы да сур´ёзнай справы. Бульбу вырошчваць, мяса арымліваць, каля станка стаяць — тут калі ласка, яшчэ й пахваляць за руплівасьць, стараннасьць, па плячы паляпаюць: так трымаць! У іншых справах — асадзі назад!..

ЧАС падвесьці вынікі размовы. Па-ранейшаму на Беларусі, і Гарадзеншчына не выключэньне, разыгрываецца польская й расейская карты. Беларуская мова тымі ж начальнікамі ўпарта ігнаруецца, Закон аб мовах успрымаецца як часовая зьява, рускамоўныя выданьні адкрыта распачалі паход супраць незалежнасьці дзяржавы і дзяржаўнай мовы. Замест былых райкамаў КПБ цяпер амаль у кожным раёне вобласьці створаны рэгіянальныя арганізацыі Саюза палякаў на Беларусі. Паявілучаецца колькасьць таварыстваў адкрыта праруркай накіраванасьці. Вядзецца сепаратысцкая гульня на Палесьсі, дзе некаму вельмі хочацца незалежнасьці ці далучэньня да суседзяў. Аднаўлена КПБ, якая не стаіць на абароне нацыянальных інтарэсаў беларуса, імкнецца зноў вывесьці нас на шлях інтэрнацыяналізацыі, а гэта значыць, да аднаўленьня імпэрскага Саюза, палітыкі старэйшага й малодшых братоў...

Куды ж падзецца беларусу? Моўчкі чакаць на лепшае? Саступіць шалёнаму націску магутных суседзяў і прыняць іх веру? Бараніць сваю годнасьць і гонар? Мне даспадобы апошняе. Ёсьць дакладна вызначаныя арганізацыі, дзе няма месца беларусу. Ня ведаю, як на абшарах астатніх вабласьцей Беларусі, аднак пераканаш, што ў нас у вобласьці павінна быць згуртаваньне — Беларускі Нацыянальны Рух Гарадзеншчыны — БНРГ. Свае правы на наш край прад´яўляюць усе суседзі, прычым адкрыта, у друку, па радыё й тэлебачаньні. Мо надыйшоў час рашуча даць адпор, прама называць правакацыі правакацыямі, назваць імёны занадта спрытных дзялкоў, якія не зважаюць на законы сувэрэннай дзяржавы, дзейнічаюць насуперак нацыянальным інтарэсам Беларусі, даваць палітычную ацэнку шматлікім заявам і публікацыям, накіраваным супраць адзінства Радзімы.

Прашу ўсіх беларусаў, каму баліць сэрца за лёс Бацькаўшчыны, выказацца на старонках «Пагоні». Канструктыўная крытыка, іншае бачаньне праблемы, уласныя меркаваньні дазволяць выпрацаваць праграму дзеяньняў.

**Валеры ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат абласнога Савета,**
**палітолаг.**

## У польскім гэнштабе

У Рэспубліцы Польшча прынята новая абаронная дактрына. Паводле яе польскі гэнштаб падрыхтаваў плян зьмены дыслякацыі вайсковых злучэньняў. У Беластоку мае быць створана механізаваная брыгада, якая будзе ў складзе Варшаўскай механізаванай дывізіі імя Т. Касьцюшкі. У Сувалках ужо адбываецца падрыхтоўка да стварэньня новай вайсковай адзінкі.

Праз 2 гады на ўсходняй мяжы Польшчы плянуецца разьмясціць 45 працэнтаў зброўных сілаў.

**Паводле «Часопіса», № 5, г. Беласток.**





# ЛЁСЫ

# 1939 год. НОВЫЯ ПАРАДКІ

39 год у маёнтку Міклашэвічаў ня розьніўся ад папярэдніх. Цёплая дажджлівая вясна спрыяла добраму ўраджаю. Садавіна адлівала на сонцы бурштынам, буяў лес, каласавала збажына. У гаспадыні маёнтку Яўгеніі Міклашэвіч, як заўжды ў гэты час, было шмат клопатаў. Ёй ня першы год прыходзілася вось так рыхтавацца (гаспадар памёр у 1936 годзе), разьлічваць, колькі трэба наняць рабочых на збор ураджаю, колькі ў гэтым годзе будзе каштаваць працадзень, колькі садавіны, збажыны неабходна прадаць, каб аплаціць навучаньне дачкі Ніны ў Гарадзенскай гімназіі. Але сабраць ураджай, а тым болей скарыстаць яго, не прыйшлося. У верасьні зьнікла польская ўлада, а на месца апошняй прыйшлі бальшавікі. Яны нядоўга марудзілі і прапанавалі сям'і Міклашэвічаў пакінуць маёнтак, патлумачыўшы гаспадыні, што ў хаце цяпер будзе сельскі Савет. Сабраўшы свае рэчы, маці з дачкою пераехалі да сваякоў у вёску Чырвоны Груд, непадалёк Гудзевічаў. Праз некаторы час Міклашэвіч даведалася, што ў яе хаце разьмесьціўся не сельсавет, а бальшавіцкі ўпаўнаважаны Іваноўскі з жонкай. Жанчына хацела паскардзіцца ўладам. Але сваякі пераканалі яе ў марнасьці такога кроку.

Яўгенія часам наведвала свой маёнтак. Крыўдна было глядзець, як без гаспадарскіх рук усё пачынала гібець. Ня вытрываўшы, неяк зрабіла заўвагу Іваноўскаму. Той толькі нахабна засьмяяўся ў адказ, маўляў, усё ваша кулацкае гаспадарства нацыяналізавана Савецкай уладай, і ніякіх правоў цяпер ўчарашнія гаспадары на гэта ня маюць. Яўгенія ўзлавалася, хацела падаваць у суд на ўпаўнаважанага за безгаспадарчасьць, але не пасьпела. Размовы пра хуткую вайну паміж Гітлерам і Сталінам зрабіліся явай. Уцёк некуды Іваноўскі, апусьцелі сельсаветы. Спадарыня Міклашэвіч пажадала вярнуцца ў маёнтак. Сваякі зноўку запярэчылі — сядзі лепей у нас, час пакажа, што рабіць.

Прыкладна праз тыдзень пасьля таго, як у Гудзевічах зьявіўся нямецкі камэндант, Яўгенію выклікалі да бургаміста Ваўкавыску. Яна паехала туды з братам на фурманцы.

У прыёмнай бургаміста сядзела яшчэ некалькі чалавек. З размовы з імі Міклашэвіч зразумела, што выклік зьвязаны з маёнткам. Калі надыйшла яе чарга, немец з перакладчыкам ветла прывіталі яе, распыталі, чаму маёнтак «Сабалеўшчына» ў такім запусьценьні. Яўгенія шчыра расказала, як усё было. Зьдзіўлены бургамістар спытаў толькі: «Што, вось так, без суда, у чалавека забралі сваё?» Яўгенія заплакала, распявала немцам, што тых, хто пратэставаў, садзілі ў турмы ці вывозілі з сем 'ямі на Поўнач.

Бургамістар праз перакладчыка супакоіў яе, сказаўшы, што з гэтага часу нямецкая акупацыйная ўлада гарантуе яе правы на бацькоўскую маёмасьць. Вярнулі ёй 125 гэктараў зямлі і, каб Яўгеніі было лягчэй весьці гаспадарку, да маёнтка накіравалі дарадчыка — справаводцу.

Вяртаньне дадому было шчасьлівай хвілінай ў жыцьці Міклашэвічаў. Зноў яны дыхалі паветрам роднай хаты, лесу, саду. Справы ў Яўгеніі ішлі пасьпяхова. Нават вельмі гаспадарлівы немец зьдзіўляўся ашчаднасьці, працаздольнасьці гаспадыні. Часам убачыўшы, як яны з дачкою заўсёды хаюцца ў садзе ці ў полі, казаў: «Фраў Гэна гут, а кольхоз шлехт».

Праз невялікі бярозавы гай ад маёнтка Міклашэвічаў знаходзіліся тры хутары. Сярод мясцовых людзей пайшлі чуткі, што на гэтых хутарах начуюць партызаны. Як даведаліся пра гэта немцы, сказаць цяжка. Ноччу яны акружылі хутары і зрабілі аблаву. Партызанаў не злавілі, затое з кожнай сядзібы ўзялі па чалавеку.

Праз дзень пасьля здарэньня на падворак Яўгеніі прыехаў немец і падаў ёй паперку — выклік да нямецкага камэнданта. Спалохаўшыся не на жарты, Яўгенія кінулася да свайго немца-справаводцы. Той прачытаў паперы, пакруціў галавой і сказаў, што яе да нямецкай управы ў Гудзевічах выклікае не камэндант, а гэстапа, якое сьпецыяльна з нагоды акцыі на хутарах прыехала ў Гудзевічы з Горадні. Міклашэвіч напалохалася яшчэ болей і сказала немцу, што не паедзе да Гудзевічаў, бо яна ні ў чым не вінаватая. Немец супакоіў яе і патлумачыў, што нават немцы баяцца гэстапа. Таму лепей ехаць, бо ўсё роўна гэстапа, пакуль не разьбярэцца, справу не пакіне.

Іншага выйсьця не было. Разьвітаўшыся з дачкой і сваякамі, Яўгенія паехала да Гудзевічаў.

Тое, што жанчына ўбачыла той раніцой у Гудзевічах, засталося ў памяці на доўгае жыцьцё. Трое арыштаваных суседзяў стаялі ў ямах, з якіх тырчалі толькі іх галовы.

Афіцэр палявой жандармэрыі, заўважыўшы зьбянтэжанасьць выкліканай на допыт, сказаў, што ямы выкапалі самі арыштаваныя і іх зараз расстраляюць, але перад гэтым нямецкі афіцэр хоча ведаць, што можа пра іх сказаць паважаная нямецкімі ўладамі фраў.

Яўгенія сказала, што ведае гэтых людзей як сумленных і працавітых гаспадароў.

Немец засьмяяўся і спытаў, а што адмоўнага яна можа сказаць. Можа, гэтыя людзі любілі бацьшавіцкую ўладу, Сталіна? Міклашэвіч паціснула плячыма. Жандар скончыў на гэтым сваі пытаньні і, як падалося адказчыцы, быў задаволены тым, што пачуў. Хвілінай пазьней ён загадаў вызваліць тых, хто знаходзіўся ў ямах.

Вярнуўшыся дахаты, Яўгенія ўсё расказала немцу, дачцы, сваякам. Тыя толькі ківалі галовамі, а немец дадаў, што Яўгенія ў вялікай пашане ў нямецкіх уладаў.

Мінула яшчэ некалькі часу, і да Сабалёўшчыны пачалі даходзіць чуткі, што немцы прайграюць вайну. Пацьверджаньнем гэтаму былі сумныя твары жаўнераў з фуражырных каманд, якія зьбіралі сена; збожжа на патрэбы Вэрмахту. Блізкія выбухі снарадаў, самалёты з чырвонымі зоркамі, якія ляцелі з усходу на захад, былі пацьверджаньнем таму, што фронт дзесьці непадалёк.

Як і ўлетку 1941 года, у 1944 годзе без вялікіх баёў лінія фронту перакінулася далёка на захад, бадай што не кранууўшы родныя мясьціны Міклашэвічаў.

У Гудзевічах ізноўку адрадзілася савецкая ўлада. Якая налажыла на ўсіх велізарныя падаткі. Зьявілася НКУС, якое пачало сьледствы,суды, экспрапрыяцыі й высяленьні. Яўгенія, каб ня быць арыштаванай, пераязджае ў Чырвоны Груд. Тут разам з дачкой жыве да 1947 года. У гэтым жа годзе дачка паступае вучыцца ў Гарадзенскі настаўніцкі інстытут.

Першага верасьня Ніна ад 'язджае да Горадні, а 12 верасьня яе маці Яўгенію Міклашэвіч арыштоўваюць органы НКУС. Суд адбыўся у Горадні 4 кастрычніка. Яўгенія Міклашэвіч атрымоўвае 15 год лагераў. Сьледам з ёю асуджаюць на розныя тэрміны сваякоў. Усяму роду Міклашэвічаў ставяць у віну расстрэл немцамі ў Беластоку савецкага ўпаўнаважанага Іваноўскага.

Пасьля суда над дзядзькам Антосем (далі яму 25 гадоў турмы), Ніна дабіваецца кароткага спатканьня з ім. Дзядзька нагадвае Ніне, што яна засталася з усяго роду фактычна адна. Таму ён просіць яе ніколі і нідзе не ўзгадваць, што яна па бацьку дваюродная сястра Ларысы Геніюш, і што па маці ў яе карані роду Каліноўскіх.

Застаўшыся адна, Ніна працягвае вучыцца ў інстытуце. З боку адміністрацыі да яе адчуваецца насьцярожанасьць. І калі ў лютым 1951 года яе выклікаў рэктар, дзяўчына зразумела, што выклік не прынясе дабра.

**(Працяг на 6-й стар.).**







**Вежы. Масты. Сходы. Прыступкі.**

**Фота А. Уладасевіча.**

## Пінск

### Пагарэлі са звонам

Скраўшы медны звон са званіцы царквы ў вёсцы Бярэзцы Столінскага раёна, крадзежнікі — жыхары суседняга сяла Селішча (двое з якіх раней адбывалі турэмны тэрмін) — вырашылі прадаць каляровы мэтал за даляры. Але ў час перадчы скрадзенага звона пакупніку, які аказаўся грамадзянінам Польшчы, аматары лёгкага заробку былі схоплены за руку супрацоўнікамі раённага аддзела ўнутраных спраў.

### Карбованцы ў пашане

Каб адчуваць сябе ўпэўнена на тэрыторыі суседняй Украіны, пінскія спэкулянты пачалі скупляць украінскія карбованцы. Робіцца гэта з нагоды таго, што ўрад суседняй дзяржавы нядаўна прыняў пастанову весьці ўсе разьлікі, транспартныя й гандлёвыя, толькі талёнамі нацыянальнага банку Украіны. Дарэчы, суадносіны беларускага «зайчыка» да ўкраінскага карбаванца — 1 да 50.

### «Магаданец» прайграе

Здабыло кепскую славу ў пінчукоў казіно, якое сёлета адкрылася ў мясцовым Доме афіцэраў. Нядаўна тут адбылася жорсткая бойка, якая была справакавана гульцом, якога ў мясцовым асяроддзі называюць Магаданцам. Ён прайграў 150 000 рублёў і ад адчаю крыкнуў, што ў яго скралі даляры. У выніку, чалавека, якога западозрылі ў крадзяжы, зьбілі да паўсьмерці, як кажуць, сьцяна пайшла на сьцяну. Адзін з гульцоў атрымаў перелом нагі. Яму выклікалі «хуткую», міліцыі на месцы бойкі ня было.

**Па матэрыялах пінскіх газэт падрыхтаваў Г. АСТРОЎСКІ.**

# ПРЭСА

## Цэнзарскі сьверб

**Рэдакцыйны напаўфэльетон**

I

— Алё, рэдакцыя?

— Рэдакцыя.

— «Пагоня»?

— Так, «Пагоня».

— Вы што там такое надрукавалі?! Вы чаму гараскопы ўсякія друкуеце, а? Ды вы там гэткія-разгэткія, вас усіх трэба звольніць ды выгнаць..

Вось такі ён — савецкі беларус. Па-бальшавіцку безапэляцыйны, шчыры максімаліст, заўсёды перакананы ў сваёй рацыі. Савецкаму чалавеку, як вядома, да ўсяго ёсьць дзела!

Адзін па тэлефоне дае рэдакцыі прачухацца (заўважце: не цікавіцца, пытае або раіцца, не!) за «памылкі» — мяккія знакі ў падвоеных «н» і г. д. Другі, ужо лістоўна, ледзьве не ворагамі беларушчыны мянуе за тое, што мы не заўжды пішам «плян», «кляса»... Такім чынам, каб дагадзіць абодвум чытачам, мы мусілі б наогул не ўжываць словы, напісаньне якіх адрозьніваецца ад расейскага, але нашае ліха ў тым, што мы ня маем анікому ані ў чым дагаджаць.

Мы — рэдакцыя, мы выпускаем газэту. Выпускаем яе, як гэта робіцца й ва ўсім сьвеце, дзеля інфармаваньня чытача, г. зн. зьмяшчаем на шпальтах навіны, карэспандэнцыі, камэнтары. Чытач сам выбірае іх паводле ўласнага густу, як у краме выбірае шакалад або цыгарэты. Абавязкова камусьці падабаецца «Астра» й не даспадобы «Кэмэл», а другому — наадварот. Нехта любіць і чытае гараскопы... У любой газэце абавязкова ёсьць артыкулы, якія некага абураць ці разьятраць, ці хацяб папросту выклікаюць незадавальненьне. Дзіўна, што сёньня яшчэ даводзіцца тлумачыць падобныя элемэнтарныя ісьціны.

Днямі наведаў рэдакцыю адзін вядомы навуковец з Піцера. Узгадалі злашчасныя гараскопы. Госьць дзівіцца. Няўжо гарадзенскія беларусы — не такія людзі, як усе іншыя?.. Гараскопы друкуюць і «Народная...», і «Зьвязда», але асабіста яму больш падабаюцца ў апошняй, бо друкуюцца па-беларуску.

II

Бээсэсэраўская хвароба зьневажаць усё беларускае пануе сёньня ў незалежнай Беларусі. «Шчырыя беларусы — сьвіньні, нацыяналісты, мова — прымітыўная, гвалтам здушыла вялікі рускі язык, флаг — фашысцкі, гэрб — (...), Пазьняк ды Шушкевіч — (зусім ужо нецэнзурна)...» Уся гэтая атрута цераз друк — ад шматтыражак з раёнкамі да саўмінаўскіх штодзённых газэт, тыражом у сотні тысячаў паасобнікаў — зусім нішчыць псіхіку ды сьвядомасьць даволі пасьпяхова здэнацыяналізаванага беларуса. Усё беларускае — нявартае, папросту нішто побач з расейскім...

Нешматлікія нацыянальныя выданьні спрабуюць супрацьстаяць гэтай чужынскай пошасьці, прасьцей кажучы, адбрэхваюцца. Бо ж хіба можна параўнаць тыражы?! У «Пагоні», напрыклад, 3 з лішкам тысячы. Ды што зробіш, калі ў пракуратуры да антыбеларускіх выданьняў Беларусі няма пытаньняў... Вельмі ўдала гэты брахлівы хор дапаўняюць маскоўскія «Русские курьеры» і г. д. «Пагоню» наш «Саюздрук» асабліва не жадае на Беларусі распаўсюджваць, а вось гэтыя — калі ласка, з радасьцю!

III

Так, савецкаму чалавеку да ўсяго ёсьць дзела! Гэта пачаму там беларускія газэткі адбрэхваюцца? Хто даў права? Што, гаворыце — дзеюць паводле закону аб друку (савецкага пакуль)? Цэнзура забаронена? Паднача́льваюцца толькі закону й нікому больш?! Ды самы галоўны цэнзар — чытач, а злашча які ненавідзець усё беларускае (а гэтыя па-ранейшаму адчуваюць сваю сілу ў нас).

У Мар'і Іванаўны талеркі не перамыты, але ёсьць хатні тэлефон затое. Яна бярэ слухаўку і званіць не сваёй сяброўцы, такой жа хатняй гаспадыні, а ў рэдакцыю «Пагоні». Адзін раз, другі, трэці... дзесяты. Бярэ дзейнасьць газэты пад асабісты кантроль. Людзі дзівяцца: а чаму вы не пашлеце, самі знаеце куды? Ня можам, тлумачым, бо не карыстаемся моваю, на якой пасылаюць. Вось кабетка й выкарыстоўвае нашу беларускую памяркоўнасьць.

Добра, дык чаго ж дамагаецца тая Мар'я Іванаўна? Яна зьдзекліва перакрыўляе нас, гаворыць: «Гарадня», «Пахадня», «Бацькіўшчына», пракурорску абвінавачвае, называючы «Пагоню» антырасейскай і нават антыправаслаўнай газэтай, пагражае судом і штрафам у «мільёны рублёў». Слухайце, ня вешайце нам сваіх дохлых сабак, у нас ніякая ні «анты», а папросту БЕЛАРУСКАЯ газэта... Паводле Мар'і Іванаўны беларуская мова не існуе ўвогуле, і нават Скарына друкаваў свае кніжкі на расейскай. Карацей кажучы, паводзіцца хатняя гаспадыня нахабна й агрэсіўна. Дурная, неадукаваная бабёнка, скажаце вы? Мабыць, сапраўды варта яе пасла́ць... ды, як на тое ліха, мы не карыстаемся пэрламі мовы ўсходняга суседа, а ў беларускай гэткага «харастава» няма. Таму выбачайце, Мар'я Іванаўна, за пэўную недасканаласьць нашай роднай мовы. Яна, мабыць, усё ж існуе, бо інакш мы вас даўным-даўно паслалі б... і вы б нам не дурылі галаву ўвесь гэты час... Зрабіце ласку, не званіце сюды больш, а замест «Пагоні» чытайце «Мы и время», гэта — менавіта для вас. Арывэдэрчы! (Прабачце за выразжэньне).

Ну, й апошняе. Дальбог, меў рацыю адзін вядомы ў нас дзеяч, які папярэдзіў: бойцеся пашпартных беларусаў. І сапраўды, бо наша Мар'я Іванаўна ніякая ні валагодзкая або цьвярская, яна — «тожабеларуска».

---

● *Вільня*

## Вечарына «Чырвонага яечка»



Клюб «Сябрына» неўзабаве пасьля Вялікадня наладзіў вечарынку «Чырвонае яечка». Пра тое, што такія вечарынкі ладзіліся ў Вільні даўней, мы вычыталі ў старых газэтах. Як яно тады адбывалася — ня ведама, напэўна ж някепска, але ў нас, мушу пахваліцца, атрымалася зусім файна. Грамада сабралася даволі ладная — дзеці зь першай беларускай клясы, што ў 13-й школе, зь беларускага факультатыва школы № 52, студэнты Пэдагагічнага Ўнівэрсітэту, ну й самыя сябрынаўцы са сваімі дзецьмі ды ўнукамі.

Натуральна, што найцікавейшыя забавы круціліся вакол яек-маляванак. Кожны прынёс сваё яйка — пасвойму адметнае. Хтосьці размаляваў пэндзлікам, хтосьці надрапаў шыльцам ценянькія карункі-арнамэнты, а хтось прыляпіў да яйкаў маленькія лісточкі і пасьля афарбоўкі засталіся пекныя адбіткі. На жаль, ніхто не зрабіў васкаваных яек-пісанак, напэўна таму, што гэтая тэхніка даволі складаная. Судзьдзі конкурсу — мастакі Алег Аблажэй, Крысьціна Балаховіч і вядучы вечарынкі Сяржук Вітушка выірашылі сёлета першае мейсца не прысуджаць. Удзельнікі конкурсу атрымалі на памяць паштоўкі ды карціны, якія намаляваў і ахвяраваў А. Аблажэй.

Пасьля конкурсу, дзеці пачалі гуляць у традыцыйныя велікодныя гульні — шукалі «мацака», гэта знача білі яйкі адно аб адно — чыё мацнейшае, а потым качалі яйкі па латаку. Правілы гэтае гульні-забавы сёньня ўжо мала хто й памятае, дык нялішне будзе расказаць. Спачатку яйкі кладуць на латак усе разам, потым адпускаюць — яны коцяцца ў розныя бакі. Паводле таго, чыё яйка адкацілася найдалей, гульцы вызначаюць чаргу. Першы бярэ сваё (астатнія яйкі застаюцца на падлозе) і пускае па латаку з мэтаю, каб яно дзюбнулася ў чыё-небудзь яйка — тады гулец забірае яго сабе. А далей астатнія качаюць па-чарзе.

Пакуль дзеці гулялі, дарослыя падрыхтавалі пачастункі і потым усе разам пілі гарбату з печывам, слухалі песьні пад гітару Зьміцера Бартосіка, дзівіліся на бальныя танцы маленькіх Натальлі Букі й Толіка Шавырава і старэйшых — паненкі Слухоўскай Аксаны і кавалера Андрэя Букі.

Вось так і адбылося сёлета ўзнаўленьне яшчэ адной слаўнай традыцыі ў нашым горадзе. Дамовіліся, што налета трэба будзе акрамя конкурса маляванак наладзіць яшчэ й конкурс велікодных булак... Зрэшты, чаго яшчэ не прыдумаецца за год!

**В. СЯБРУК,**
**Вільня.**

---

## Дзевяць тысяч за пашпарт

З 18 траўня ахвотныя атрымаць «сярпаста-малаткасты» замежны пашпарт вымушаны выкласьці з уласнай кішэні дзевяць тысяч рублёў. Дарэчы, згодна апошнім пастановам ураду Беларусі, у замежжа можна вывезьці тавару толькі на пяць тысяч рублёў.

**(га).**

---

## 1939 год. НОВЫЯ ПАРАДКІ

**(Працяг. Пачатак на 5-й стар.).**

Рэктар пры сустрэчы ўсьміхаўся, і, між іншым, прапанаваў Ніне пакінуць інстытут і заняцца пэдагагічнай практыкай.

Не атрымаўшы дыплёма настаўніка, Ніна ідзе працаваць касіркай у філіял Менскай фабрыкі. На пасадзе касіркі дзяўчына працуе да 1955 года, а 21 кастрычніка 55-га года як безпадстаўна асуджаная, вызваляецца з лагеру маці (да гэтага ў спадарыні Ніны Міклашэвіч ёсьць даведка за № 000800).

Яўгенія Антонаўна пасяляецца ў Чырвоным Грудзе, працуе. У тым жа годзе Ніна робіць удалую спробу адновіць навучаньне ў інстытуце. Яе аднаўляюць на падставе невіноўнасьці маці. Скончыўшы інстытут, Ніна едзе працаваць у вёску, забірае да сябе маці. Разам яны жывуць у вёсцы восем год. Затым дачка вяртаецца працаваць у родны інстытут мэтадыстам завочнага аддзяленьня пачатковага факультэта.

Здароўе маці, падарванае ў Сібіры, пагаршаецца. Ніна з дапамогай тых, хто спачуваў яе бядзе, атрымоўвае аднапакаёвую кватэру з усімі выгодамі.

Праца прыносіць ёй задавальненьне, яе адзначаюць ганаровымі граматамі, заносяць на дошку гонару.

Але прыняць узнагароды яна адмаўляецца. Нават пасьля таго, як парторг інстытута ў размове ёй кажа, што без Ніны Паўлаўны дошка гонару не адпавядае свайму прызначэньню.

Як не хавала спадарыня Міклашэвіч сваё паходжаньне, але ворганы КДБ усё ж даведаліся, што яна — сястра Л. Геніюш. Ня раз выклікалі Ніну Паўлаўну на размовы з просьбай, каб яна пераканала Ларысу Антонаўну, што грамадзянства краіны Саветаў дасьць той пэўныя перавагі. Але ў Міклашэвіч для прадстаўнікоў КДБ быў адзін адказ: «На яе месцы я зрабіла б тое ж самае».

Любоў да маці выклікае ў Ніны Паўлаўны шмат пачуцьцяў. Яна некалькі год запар спрабуе дабіцца для маці пэнсіі і кампэнсацыі за безпастаўнае асуджэньне. І хаця ўрэшце рэшт ёй удалося дамагчыся маленькай пэнсіі ў 1988 годзе для фактычна стогадовай маці, то рэабілітаваць яе пакуль што не стае сілы. Куды толькі не зьвярталася гаротніца-жанчына, паўсюдна немата й зьдзеклівыя адказы. Знайшла дакумэнты, якія сьведчылі аб тым, што ўпаўнаважаны сам здаўся немцам. Прынесла даведку за подпісамі тых, хто знаходзіўся ў гэстапаўскай яме, што толькі дзякуючы розуму Яўгеніі Міклашэвіч яны засталіся жывымі.

Мы сядзім з Нінай Паўлаўнай у яе маленькай кватэры, размаўляем, глядзім фотаздымкі, чытаем лісты. З восені 1992 года Ніна Паўлаўна адна жыве без сваёй любай матулі, але яна марыць рэабілітаваць маці хаця б нават пасьля сьмерці.

**Г. АСТРОЎСКІ.**



# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## Ах, вар ´етэ, вар ´етэ...

Яшчэ раз і доўга ўглядваюся ў здымкі гэтых дзяўчат. Дзеля іх наведаў рэстарацыю «Гродна» і пабачыў праграму. Дарэчы, вар ´етэ стала магчымым у Горадні толькі дзякуючы «перабудове».

Памятаю, як у тыя часы адбываліся першыя рэпетыцыі ў Гарадзкім Доме культуры. Некаторыя з дзяўчат нават прыходзілі з малымі дзецьмі, бо папросту не было з кім заставіць у хаце. Магчыма, ня ўсё добра складвалася ў сям ´і. Аднак у іх быў вялікі запал да новага, яны дапамагалі адна адной і да сямі патоў скакалі на сцэне, высока падымаючы свае прыгожыя ногі.

Людзі па-рознаму ставіліся да іх занятка. Нехта асуджаў, камусьці падабалася, а некаторыя папросту атрымлівалі задавальненне, ні аб чым незадумваючыся. Тады я таксама не разважаў над тым, дзеля чаго яны скачуць, цыруюць ня новыя панчохі і позна кладуць сваіх дзетак спаць, ды яшчэ кожны раз выслухоўваюць пастаянныя заўвагі мастацкага кіраўніка. Праўда, тых першых танцоўшчыц у гэтым калектыве ужо амаль няма.

Плоцяць грошы тут невялікія, паколькі адзін білет падчас майго візіту ў «Гродна» каштаваў за праграму толькі 150 рублёў, а бутэлька гарэлкі — 900. А яшчэ розныя затраты на арэнду, касьцюмы, музыку і г. д.

Наш горад хоць і несталічны, аднак усе, хто яго наведвае, як правіла, застаюцца задаволенымі. Часткова, думаю, гэтае задавальненьне застаецца і пасьля наведваньня вар ´етэ. Нездарма ж падчас праграмы дзяўчатам дораць кветкі, прыносяць у пакойчык шампанскае. Праўда, бываюць і такія выпадкі, калі камунебудзь з наведвальнікаў раптам захочацца прайсьціся менавіта там, дзе сьпяваюць альбо танцуюць. Але ўсё гэта вельмі зразумела — людзі бываюць розныя. Толькі нягледзячы ні на што праграма вар ´етэ ў «Гродні» цалкам мяняе рэстарацыю, упрыгожвае вольны вечар, бо не можа быць адпачынак толькі пад гарэлку і яду.

Дарэчы, нашых дзяўчат ведаюць не толькі ў Горадні. Яны гастралявалі ў Сочы, Уладзіміры, Смаленску, Уладзікаўказе, Гомлі, Наварасійску.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельніцы вар ´етэ мінулага года; прадстаўляецца сучасная праграма.**





## Даляр дасягнуў тысячы...

Некаторыя гандляры, каму было вельмі патрэбна, ужо ў гэтыя выхадныя куплялі даляр за адну тысячу рублёў. Цікава, якім будзе яго рост далей? Хутчэй за ўсё, ён ня спыніцца. Праўда й тавару ад гэтага на рынку не прыбаўляецца, шмат хто становіцца банкротам.

Зноў шмат украінцаў на рынку. Яны прыязджаюць нават цэлымі турыстычнымі цягнікамі на выхадныя й начуюць у вагонах. Скупляюць, як звычайна, прадукты харчаваньня й даляры.

**Цэны на некаторыя харчовыя тавары на Гарадзенскім торжышчы за мінулыя выхадныя:**

Сьвініна, 1 кг — ад 600 да 2000 руб.
Цяляціна, 1 кг — 600—1400 руб.
Вэнджаніна, 1 кг — ад 200 да 2500 руб.
Шынка собская, 1 кг — ад 1000 да 1800 руб.
Сала салёнае, 1 кг — ад 650 да 700 руб.
Бараніна, 1 кг — 600—1000 руб.
Яйкі, дзесятак — 170—200 руб.
Масла сьметанковае, 250 г — 230—250 руб.
Сыр «Расейскі», 1 кг — 1400—1600 руб.
Алей 1 л — 300—350 руб.
Курыца, 1 шт.— 2000 руб.
Індык, 1 шт.— 3500 руб.
Морква, 1 кг — 180—200 руб.
Бульба, 1 кг — 23—25 руб.
Капуста, 1 кг — 400 руб.
Цыбуля, 1 кг — 30—35 руб.
Цыбуля зялёная, пучок — 20—25 руб.
Рэдзька, пучок — 50—80 руб.
Гуркі, 1 кг — 270—330 руб.
Яблыкі, 1 кг — 150—250 руб.
Бананы, 1 шт.— 220 руб.
Мёд, 1 кг — 1500 руб.
Тытунь, 1 кг — 350 руб.
Ружы, 1 шт.— 50—300 руб.
Гарэлка, 1 бут.— 960—980 руб.
Даляр США — 960—980 руб.

**М. ЖЫЛЕЎСКАЯ.**

**Шаноўныя спадарыні й спадары!**
**Газэта «ПАГОНЯ» — гэта зьвесткі з Гарадзеншчыны, Віленшчыны й Беласточчыны. Калі вас цікавіць беларускае жыццё ня толькі на Беларусі, але таксама ў Польшчы й Летуве, дык падпішыцеся на нашу газэту! Паўгадавы кошт — 333 рублі, індэкс — 63124. Падпіска прымаецца ў любым паштовым аддзяленьні Рэспублікі Беларусь.**

## Ці добры ты пакупнік?

Амэрыканскі сацыёлаг Фэйт Панкорн ахарактэрызаваў 80-я гады як дзесяцігоддзе — «пачатак». Бо людзі не адмаўляюць сабе ні ў чым, патураючы сваім жаданьням.

У 50% задавальненьне ад шыкоўнай пакупкі,— лічыць Фэйт,— складае сам факт яе набыцьця. А вось для 90-х гадоў характэрна ўжо атрымальне задавальненьня ад менавіта выгоднай пакупкі: хваляваньне значна ўзрастае, калі вы набылі нешта таньней, чым яно каштуе. Хочаце пераканацца ў гэтым? Вось некалькі меркаваньняў амэрыканак.

Брокер з біржы Сан-Францыска спадарыня Мэры, якая выкарыстоўвае свае абедзеныя перапынкі на наведваньне выставаў, усе ўік-энды праводзіць на танных распрадажах: «Мінулай восеньню я знайшла сабе скураную спадніцу, якую ўцанілі з 600 даляраў да 25! Усякі раз, калі я яе апранаю, у мяне пачуцьцё, нібыта я дабілася нечага «выключнага»!

Спадарыня Клер з Сэнь-Луіса, да прыкладу, адчула сябе шчасьлівай, калі выпадкова зрабіла выгодную пакупку: «Я паехала пакатацца за горад і раптам паддалася нейкаму імпульсу, пачала аб ´яжджаць адрасы, дзе вядзецца продаж розных тавараў на вуліцы па аб ´явах. Вы не паверыце, што я знайшла настольнік з Дамаска ўсяго за 5 даляраў і дубовы пісьмовы стол за 100! У мяне было адчуваньне, быццам сама прадбачлівасьць дапамагла мне абставіць новую кватэру».

Інфляцыя прымусціць і нас з вамі цаніць выгадныя пакупкі. Ну, а ці добры ты пакупнік? Ці ўмееш рабіць пакупкі? Паспрабуйце адказаць на тэст з галандзкага часопіса «Флаір».

**1. Вы ідзяце ў краму:**

а) у вас заўсёды спіс неабходных пакупак і вы яго прытрымліваецеся — 1;

б) вы купляеце ўсё, што падабаецца, і звыш «плана» — 3;

в) часам вы дазваляеце купіць штонебудзь «звыш», але толькі часам — 2;

**2. У краме вы заўважылі паліто і таньней яго звычайнага кошту. Але ў вас ужо яно ёсьць. Што рабіць?**

а) вы купляеце паліто — 3;
б) адмаўляецеся ад пакупкі — 1;
в) вы ў роздуме, і ўсё ж купляеце, бо гэта рэч будзе для вас прыемнай не адну гадзіну — 2.

**3. Ці часта вы купляеце звыш таго, чым вам патрэбна!**

А) амаль кожны дзень — 3;
б) два разы на тыдзень — 2;
в) раз у тыдзень — 1.

**4. Ці ёсьць у вас пазыкі!**

а) так, але ня шмат — 2;
б) так, шмат — 3;
в) не, я не бяру пазыкі — 1.

**5. Як часта вы шкадуеце аб набытай пакупцы!**

а) практычна ніколі — 1;
б) часам — 2;
в) вельмі часта — 4.

**6. Ці часта вы пакідаеце спэцыяльна грошы дома, каб пазьбегнуць спакусы іх патраціць!**

а) не, ніколі, бо не купляю лішняга — 1;

б) часам, асабліва падчас танных распрадажаў тавараў — 2;

в) часта — 4.

**Вынікі тэста:**

**0—7 ачкоў.** Вас можна павіншаваць — вы ня той чалавек, які марна траціць грошы. Магчыма, вы нават вельмі эканомны чалавек. Зрабіце сабе прыемнасьць — купіце што-небудзь незапланаванае.

**8—13 ачкоў.** Выбар прыпадае на сярэдзіну. Вам няма аб чым турбавацца. Праўда, іншы раз у вас зьяўляецца жаданьне набыць нешта новае, але гэта не мацней за вашу волю.

**14 і болей.** Сьцеражыцеся застацца зусім бяз грошаў, бо часам у вас узьнікае нестрымальнае жаданьне — купляць.

**Падрыхтаваў А. КАНДРАШОЎ.**

## Футбол

Насуперак скэптычным заявам суверэнны беларускі футбол ідзе наперад і набывае рысы эўрапэйскага стандарту. Мала-памалу набіраюцца вопыту й майстэрства ўчарашнія аматарскія клюбы. Гульні з іх удзелам робяцца часам непрадказальнымі. Асабліва гэта тычыцца ў сёлетнім сэзоне гарадзенскага «Хіміка», які ў дзевяці апошніх гульнях ня ведае пройгрышаў. Таксама пасьпяхова гуляе ў другім крузе бабруйскі «Фандок», віцебскі «КІМ» і менская «Беларусь». Менавіта гэтыя клюбы й паявдуць барацьбу за другое месца, якое дае магчымасьць атрымаць пуцёўку на эўрапэйскія кубкі.

У ніжняй частцы турнірнай табліцы «ўтульна» разьмясьціліся «Абутнік» з Ліды й жодзінскае «Тарпэда». Яны амаль страцілі шанцы ўтрымацца сярод мацнейшых, і проста адбываюць свой нумар на полі.

**Г. СЫСОЙ.**

**«ПАГОНЯ»**
**Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ**
**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»**
Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца штотыдзень па пятніцах.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская ваблясная ўзбуйненая друкарня: 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Падпісана да друку 20.V.1993 г.
**Тыраж 3400 паасобнікаў Замова 2516**